
№ 8
USSR
NO 25
ІСКРЫ ІЛЬІЧА
С С Р
ДРЕЙФУ ЩАЯ
ЭКСПЕДИЦИЯ ГЛ СЕВМОРПУТИ
С С С Р
МОСКВА



# Па Мёд

Малюнак В. Ц.

Выгнаў я каровы зранку,
За падпаска ўзяўшы Янку.
Вось прыгналі мы у лес,
З Янкам я пад куст залез.
Там сядзелі, жартавалі,
Пра Балду й папа чыталі.
Раптам Янка ўскочыў куляй—
Ён на ліпе згледзеў вулей,
І давай на ліпу лезці
(Захацеў, бач, мёду з'есці).
Я—за Янкам, нібы кот,
Бо люблю таксама мёд.
Лез на ліпу я вясёлы,
Але дзе там! Раптам пчолы
Як раз'юшыліся, гады,
Дык мы з Янкам і не рады.
Я наўцёк. За мною Янка
Паляцеў, нібы маланка.
Ледзьве потым адсапліся,
Ды лічыць гузы ўзяліся.
Я-ж надумаўся тады
Гэта дзеду расказаць
І удвух той мёд дастаць
Без ніякае бяды.
Вось прыгнаў дадому быдла
(Пасвіў доўга, аж абрыдла)
І усё у час абеду
Расказаў падробна дзеду,
А каб дзед мог веры даць—
Паказаў гузоў штук пяць.
Дзед адразу мне паверыў,
Кій узяў з сабой, сякеру
І, сказаўшы: „Праваронiш!
Еш, а я пайшоў. Дагоніш".—
Вышаў з хаты. Праз мінутку
Бег і я да ліпы хутка.
Вось прыбег, задраўшы галаў,
Бачу—грабіць нехта пчолаў.
— Дзед! чакай,—крычу,—мы ўдвух!
Тут мой дзед на зямлю—бух!
Як заенчыў, застагнаў,
Аж у пот мяне ўвагнаў.
Нажахаўся я нямала,
Ды дамоў хутчэй даў драла.
Раптам... з дзедам я спаткаўся.
— Дзед!? Дык ты жывы астаўся?
Што за дзіва? Ты-ж упаў!
— Што?—мой дзед перапытаў.—
Мне нічога невядома.
Я-ж забыўся міску дома,
І вярнуўшыся за ёю,
Размінуўся нейк з табою.
Але хто-ж там быў? Я гляну.
Вось прышлі мы на паляну.
Што-б вы думалі я ўгледзеў?
Ды—вялізнага мядзведзя:
Ён пад ліпай нема роў,
А з нагі лілася кроў...

---

З яго скуры вышла шуба.
Ну і цёплая—аж люба!

Вал. КУШНЕР




*Зімоўшчыкі палярнай станцыі „Паўночны полюс“, злева направа: т.* **КРЭНКЕЛЬ,** *Герой Совецкага Саюза т.* **ПАПАНІН,** *т. т.* **ФЁДАРАЎ** *і* **ШЫРШОЎ.**



# СТАНЦЫЯ ПАЎНОЧНЫ ПОЛЮС

*Здымкі Саюзфото.*

Калі мячык пакруціць на стале, як ваўчок, то ўверсе і ўнізе на ім будзе два пункты, якія круціцца не будуць. Яны будуць падобныя на канцы восі, вакол якой нібы круціцца мячык.

Такія самыя канцы восі, або полюсы, ёсць і на зямным шары.

На працягу тысяч гадоў чалавек паступова даследваў усю сваю зямлю, усюды пабываў, а да полюсаў ніяк не мог дабрацца. Бо знаходзяцца яны надта далёка, у царстве вечнай зімы, сярод непрыступнага лёду, дзе бадай заўсёды бушуюць буры-завірухі, дзе ноч пануе поўгода, а потым поўгода свеціць халоднае сонца.

І людзі ўвесь час ламалі галаву: які выгляд мае гэты таемны, недаступны полюс? што на ім адбываецца?

Многа адважных людзей з розных краін на працягу апошніх трохсот гадоў імкнуліся на бліжэйшы да нас Паўночны полюс; яны пакутвалі, гінулі, а полюс так і заставаўся таемным, недасяжным. Самым упартым быў амерыканец *Роберт Піры.* Ён дваццаць гадоў правёў у падарожжах на полюс і, нарэшце, у 1909 годзе дабраўся да яго. Але нічога асаблівага не знайшоў там: лёд і больш нічога. Прабыў ён на полюсе ўсяго некалькі гадзін, дзеля якіх патраціў усё сваё жыццё.

У 1925 годзе на Паўночны полюс паляцеў



*Начальнік экспедыцыі на Паўночны полюс, Герой Совецкага Саюза прафесар ОТТО ЮЛЬЕВІЧ ШМІДТ.*



*Камандзір лётнага атрада і самалёта „СССР-Н-170", Герой Совецкага Саюза ВАДАП'ЯНАЎ М. В.*

на двух самалётах вядомы нарвежскі даследчык *Роальд Амундсен.* Але за 200 кілометраў ад полюса адзін з самалётаў пацярпеў аварыю, і падарожнікі ледзь выратаваліся на другім.

Праз год над полюсам праляцеў амерыканскі лётчык, а потым той-жа Амундсен на дырыжаблі і, нарэшце, у 1928 годзе італьянец Нобіле таксама на дырыжаблі. Усе яны толькі зірнулі на полюс і нічога дакладнага сказаць аб ім не маглі.

А між тым для навукі вельмі важна было-б ведаць пра усё, што там адбываецца: даследваць і паветра, і лёд, і мора пад ім, і таемную з'яву—паўночнае з'янне, а самае галоўнае—прасачыць за надвор'ем на полюсе, бо ад яго залежыць і наша надвор'е.

Але як гэта зрабіць? Пасяліцца там, ці што? Ды такая думка і ў галаву нікому прысці не магла. Дзе там жыць і чым жывіцца? Як даставіць туды харчы і ўсе іншыя рэчы, калі самому чалавеку і то дабрацца цяжка? Амерыканец Піры дваццаць гадоў змагаўся, каб пабыць на полюсе гадзін шэсць, і гэта было вялікім геройствам. Большага ніхто не мог зрабіць.

Але вось мы бярэм якую-небудзь нашу газету, напрыклад, „Комсомольскую Правду" ад 3 чэрвеня 1937 года, і там знаходзім наступнае паведамленне:

„Учора тэрмометр на палярнай станцыі „Паўночны Полюс" паказваў два градусы холаду. Бачнасць дрэнная. Над дрэйфуючай зімоўкай раніцою быў туман, а ўдзень ішоў снег".

Што гэта значыць? На Паўночным полюсе стаіць тэрмометр, і нехта паведамляе аб надвор'і? Ды яшчэ гаворыцца пра нейкую дрэйфуючую зімоўку! Зімоўка—гэта прытулак, паселішча ў бязлюдных халодных краях; а „дрэйфуючая"—гэта такая, якая плыве па моры, куды нясе вада. Няўжо там людзі жывуць?

Так. З 21 мая там жывуць чатыры совецкіх



*Камандзір самалёта „СССР-Н-169“, Герой Совецкага Саюза* МАЗУРУК *І. П.*

грамадзяніна: *І. Д. Папанін, Е. К. Фёдараў, П. П. Ширшоў і Э. Т. Крэнкель.*

Жывуць на лёдзе ў дасканалай палатцы з гагачага пуху. Падлога пакрыта падушкамі, надзьмутымі паветрам. Ёсць там чатыры ложкі, столікі і крэслы. Колер палаткі чорны, каб сонца лепей награвала.

І ўжо быў выпадак, што сонца нагрэла палатку да 24 градусаў цяпла, у той час як надвор‘е мела 5 градусаў холаду.

Вакол галоўнага „дома“ стаіць некалькі меншых, дапаможных, палатак. Там вядзецца навуковая работа. Апрача таго, пабудаваны са снегу і лёду кухня, склады для прадуктаў, радыёстанцыя. Ды яшчэ стаіць вятрак, які круціць дынама-машыну, а яна дае электрычнасць.

Харчоў жыхары полюса маюць на паўтара гады. Стравы так зроблены, каб ніводнага лішняга грама не трэба было везці з сабой. Суп, катлеты і іншыя рэчы зроблены ў Маскве на фабрыцы і прывезены на полюс у сухім выглядзе. Каб зрабіць тысячу кілограмаў катлет, дык прышлося скарыстаць мяса 50 быкоў і 5.500 курэй.

Маюць нашы незвычайныя



*Камандзір самалёта „СССР-Н-171“, Герой Совецкага Саюза* МОЛАКАЎ *В. С.*

пасяленцы і шмат усялякага іншага дабра: шоўкавая і шарсцяная бялізна, панчохі з сабачай скуры, штаны, кашулі і боты з аленевай скуры, шарсцяныя, пухавыя і футравыя касцюмы, шапкі і рукавіцы; спальныя мяшкі з воўчай скуры і шоўкавыя мяшкі з гагачага пуху, матрацы з аленевых скур; тысяча дзвесце кілограмаў гаручага для радыёстанцыі, матораў і кухні; поўны набор лякарстваў, пасуда, лямпы, ліхтары, рыдлёўкі, сякеры, стрэльбы, сшыткі, санкі, усялякія навуковыя прыборы і г. д. і г. д.

Якім чынам апынуліся на полюсе жыхары з такой вялікай гаспадаркай, калі да гэтага часу ніводзін чалавек і аднаго дня не мог пражыць там?

Гэта маглі зрабіць толькі большэвікі. Тое, аб чым увесь свет толькі марыў, чаго не магла зрабіць ніякая капіталістычная краіна, тое зрабіла совецкая ўлада.

Чатыры вялізныя совецкія самалёты, якія вялі нашы героі лётчыкі *М. В. Вадап‘янаў, А. Д. Аляксееў, І. П. Мазурук і В. С. Молакаў* з самай выдатнай камандай, пад кіраўніцтвам славутага героя-прафесара *Отто Юльевіча Шмідта,* — гэтыя совецкія



*Камандзір самалёта „СССР-Н-172“, Герой Совецкага Саюза* АЛЯКСЕЕЎ *А. Д.*



*Група ўдзельнікаў пералёту на Паўночны полюс. Злева направа — т. т.* **СПІРЫН, ШЭВЕЛЕЎ, БАБУШКІН, ШМІДТ, ВАДАП'ЯНАЎ, АЛЯКСЕЕЎ, МОЛАКАЎ.**

гіганты даставілі на полюс чатырох жыхароў з усім патрэбным абсталяваннем.

Але нельга думаць, што ўсё гэта так проста і так лёгка зрабілася. На самалётах і раней прабавалі ляцець на полюс, але нічога з гэтага не вышла. Самалёты ёсць і цяпер ва ўсіх іншых дзяржавах, але ніхто такой справы не мог зрабіць. Тут патрэбна нешта іншае, чаго другія не маюць.

Тут патрэбна жалезная воля большэвікоў. Тут патрэбен удзел магутнай улады, вопытныя людзі-героі, строгая арганізацыя і дасканалая падрыхтоўка ўсёй работы.

Гэтая экспедыцыя рыхтавалася два гады. Усе ўдзельнікі старанна практыкаваліся і загартоўваліся, кожная дробязь абмеркавана з усіх бакоў, кожная нечаканасць прадугледжана. Што-б ні здарылася ў дарозе, для ўсяго прыдуманы выхад. І сурова забаронена было без патрэбы рызыкаваць.

За тысячу кілометраў ад полюса, на самым паўночным востраве Рудольфа, была падрыхтавана апошняя станцыя для самалётаў. Каб было добрае надвор'е, самалёты маглі-б даляцець туды з Масквы за гадзін восемнаццаць, а так падарожжа заняло каля двух месяцаў. Бо ў дарозе даводзілася доўга сядзець на месцы і чакаць добрага надвор'я.

Прышлося доўга прасядзець і на востраве Рудольфа. Але досыць было чатырох гадзін добрага надвор'я—і самалёт Вадап'янава 21 мая пераляцеў на полюс. Ён павінен быў падрыхтаваць там месца для пасадкі другіх самалётаў і паведамляць ім пра надвор'е на полюсе.

Зноў пачалося чаканне. Праз пяць дзён вылецелі апошнія тры самалёты. Два апусціліся каля Вадап'янава, а трэці кілометраў за дваццаць пяць у баку. Праз некалькі дзён прыляцеў і ён. На полюсе сабралася 43 чалавекі народу. Ды яшчэ з такой вялікай маёмасцю. Ці мог хто калі нават падумаць аб гэтым?

Пабудавалі станцыю „Паўночны полюс"



*Камандзір самалёта „АНТ-25“, Герой Совецкага Саюза ЧКАЛАЎ В. Ч.*

і ўрачыста адкрылі яе, узнялі совецкія сцягі, зрабілі мітынг, паслалі адтуль прывітанне таварышу Сталіну, дзякуючы якому магла адбыцца такая вялікая перамога, развіталіся з чатырма таварышамі, што асталіся тут жыць, і паляцелі назад.

Дзеля таго, што нехапала бензіну, самалёту Аляксеева прышлося сярод дарогі апусціцца на лёд і чакаць, пакуль яму прышлюць гаручае. Але нарэшце ўся экспедыцыя вярнулася назад, не пацярпеўшы ніякай страты.

Трэба бачыць гэтыя велізарныя, цяжкія самалёты, трэба ведаць, што лёд на поўначы ўвесь паламаны і наварочаны крыга на крыгу, трэба ўявіць сабе, як гэта знайсці зверху пляцовачку роўнага лёду і пасадзіць на яе гэткую махіну, а потым зноў узняцца — тады толькі хоць трошкі можна зразумець, якую вялікую справу зрабілі совецкія героі.




*Карта пералёту т. Чкалава.*

І вось цяпер, калі мы сядзім у сваёй хаце, там недзе на канцы свету, на крызе жывуць чатыры чалавекі. Круглыя суткі яны працуюць — наглядаюць, даследуюць, вымяраюць, запісваюць і паведамляюць нам. Нашы вучоныя цяпер ужо больш пэўна і на больш доўгі час могуць сказаць нам, якое дзе будзе надвор'е. Мы ведаем ужо, што мора там мае больш за чатыры кілометры глыбіні, што ў ім ёсць струмені досыць цёплай вады, што там на лёдзе трапляюцца птушкі, ведаем, што крыга, на якой сядзяць людзі, увесь час пасоўваецца ў сярэднім на дзесяць кіламетраў у суткі, што ўсяго яны праплылі ўжо кіламетраў дзвесце. А калі мы будзем ведаць, як там рухаецца лёд, то зможам упэўнена весці па акіяну нашы параходы.

У канцы верасня там пачнецца ноч на поўгода. Як тады будуць жыць нашы таварышы? А крыгі-ж ломяцца, налазяць адна на адну. Што будзе, калі гэта здарыцца ў самым лагеры? А што будзе, калі іх за-



*Герой Совецкага Саюза*
БЕЛЯКОЎ А. В.

нясе няведама куды, можа ў адкрытае мора? А што можа зрабіць з імі бура-завіруха? Адным словам, шмат небяспек чакае нашых герояў.

Але ўсё гэта прадугледжана, супроць усіх небяспек падрыхтавана абарона. Усе патрэбныя рэчы і прадукты складзены ў розных месцах. Калі ў адным загінуць, то ў другім застануцца. Апрача таго, яны ляжаць на санках; калі што якое, можна адразу адвезці іх прэч. Супроць вады падрыхтаваны лодкі, калі сапсуецца адзін радыёапарат, ёсць другі і г. д. і г. д. Ніколі ніякая экспедыцыя не была так добра арганізавана, таму і ідзе ўсё так гладка.

Не кожная храбрасць і геройства прыносіць карысць. У совецкай краіне шануецца толькі разумная, абдуманая храбрасць. Таму мы і можам зрабіць усё, што захочам.

Не паспелі яшчэ совецкія самалёты вярнуцца з полюса, не скончылі яшчэ замежныя газеты дзівіцца і захапляцца такой падзеяй, як прагрымеў на ўвесь свет новы подвіг совецкіх герояў: адзін совецкі самалёт пераляцеў праз полюс і апусціўся на тым баку зямлі, у Амерыцы.

Гэта быў той самы самалёт і тыя самыя героі—*В. Ч. Чкалаў, Г. Байдукоў і А. Белякоў,* якія летась праляцелі, не спыняючыся, па Сталінскаму маршруту ад Масквы да Камчаткі.

Цяпер яны вылецелі 18 чэрвеня ў 4 гадзіны 5 мінут і апусціліся ў Амерыцы 21 чэрвеня ў 19 гадзін 30 мінут, г. зн., прабылі ў паветры 63 гадзіны 25 мінут, праляцеўшы звыш дзесяці тысяч кіламетраў.



*Герой Совецкага Саюза*
БАЙДУКОЎ А. Ф.

Яны праляцелі над полюсам, над галовамі тых чатырох таварышоў, што жывуць цяпер там. За полюсам пайшлі мясціны, дзе ніколі не было ніводнага чалавека. Самалёт усё ляцеў і ляцеў. Матор, зроблены совецкімі заводамі, гудзеў роўна і спакойна. Каб ён хоць трошкі прыпыніўся, самалёт загінуў-бы. Снег, вецер, туманы перашкаджалі самалёту, але затрымаць не маглі. Надзвычайная вопытнасць трох совецкіх герояў перамагла ўсе гэтыя небяспекі. Не лепш было і над паўночнымі амерыканскімі берагамі, а потым прышлося пералятаць праз велізарныя Скалістыя горы, ляцець уздоўж берага Ціхага акіяна.

І калі самалёт апусціўся ў горадзе Портландзе (недалёка ад Сан-Францыско), то амерыканцы наладзілі нашым героям такую ўрачыстую сустрэчу, якую мала хто бачыў і ў іх. Але ў совецкага грамадзяніна галава ад такой славы не закружыцца. Мы ведаем, што такіх герояў і такіх самалётаў у нас тысячы, а заўтра будзе яшчэ больш. Бо гэтую справу вядзе магутная большэвіцкая партыя і яе вялікі правадыр Сталін. А пад такім кіраўніцтвам мы яшчэ не раз здзівім свет новымі подвігамі.

**АД РЭДАКЦЫІ. Калі нарыс Я. Маўра быў ужо ў друкарні, увесь свет абляцела вестка, што праз Паўночны полюс у Амерыку пераляцеў другі совецкі самалёт, які апусціўся нават значна далей за першы. Самалёт вялі героі-лётчыкі *ГРОМАЎ, ЮМАШОЎ* і *ДАНІЛІН*.**



# Дзіва



Я. КОЛАС

НАРОДНАЯ КАЗКА

Пайшоў адзін бедны чалавек у свет шукаць сабе якога-небудзь спосабу. Пакінуў сваю хату і жонку.

— Знайду які спосаб, вярнуся дадому; а не знайду,—жыві як хочаш,—кажа ён жонцы, выходзячы з хаты.

Ідзе ён дзень, ідзе другі і прыходзіць у лес. Стаіць у лесе хатка. А ўжо быў надвячорак, у лесе пачынала цямнець.

„Дай, думае чалавек, зайду паначую тут“. Пастукаў у акенца.

— Хто там?—пытае нехта з хаты.

— Падарожны.

— Што табе трэба?

— Будзьце ласкавы, пусціце паначаваць.

Адчыніліся дзверы. Увайшоў падарожны ў хату. Бачыць—у хатцы пуста, але чысценька. У куце стаіць толькі адзін стол і дзве лаўкі. А за сталом сядзіць дзядок старэнькі.

— Сядай,—кажа дзядок.

Сядзяць яны, гамоняць. Сядзяць гадзіну і другую. А нашаму падарожнаму есці хочацца, а на стале ні скарыначкі хлеба.

Вось дзядок і кажа:

— Ну, мый, брат, рукі ды за стол садзіся, бо бачу—ты есці хочаш.

Памылі яны рукі і за стол паселі.

Вось дзядок кажа:

— Дзіва, ідзі ў хату жыва!—

Увайшоў у хату індык.

— Сячыся, рубайся, у гаршчок накладайся, да агню прыстаўляйся і на стол падавайся!

Індык сам зарэзаўся, сам аскубся, да агню прыставіўся, зварыўся і на стол падаўся.

— Еш,—кажа дзядок,—толькі касцей не грызі.

З'елі яны ўсё мяса, косці палажылі на стол, а дзядок кажа:

— Дзіва, збірайся ды за парог выбірайся!

Дзіва сабралася, саскочыла са стала і пайшло за парог.

Пазірае падарожны і дзівіцца.

— Вось,—кажа,—каб мне такое дзіва! Прадай ты мне яго, дзедка.

— Я не прадаю нікому за грошы, а добрым людзям і так аддаю.

І падарыў гэта Дзіва чалавеку. Узяў бедны чалавек індыка пад паху і пайшоў дадому.

Рада жонка, што яе чалавек вярнуўся, а ён кажа:

— Вось прынёс я Дзіва, ты толькі паглядзі, што тут будзе. Накладзі дроў у печ, а сама за стол садзіся.

Наклала жонка ў печ дроў і села за стол, а гаспадар кажа:



— Дзіва, ідзі ў хату жыва.

Уваходзіць індык.

— Сячыся, рубайся, у гаршчок накладайся, да агню прыстаўляйся, на стол падавайся!

Дзіва само зарэзалася, аскублася, палажылася ў гаршчок, прыставілася да агню, зварылася і на стол падалося.

З'елі яны ўсё мяса, а косці на стол палажылі.

— Дзіва, збірайся і за парог выбірайся!

Сабрала яно ўсе свае косці, саскочыла са стала і пайшло ў сенцы.

Пажыў так чалавек з жонкаю дзён колькі, а Дзіва карміла іх. Вышлі дровы. Паехаў гаспадар у лес дровы сеч. Прыходзіць поп да яго жонкі.

— Чуў я, што ў вас якоесці Дзіва ёсць. Ці не ад духа злога яно?—пытае жанчыну поп.—Пакажы мне яго.

— Сядайце, бацюшка, за стол, яно зараз увойдзе.

Селі.

— Дзіва, ідзі ў хату жыва!

А Дзіва не слухае.

Узяла жонка качаргу.

— Вось я-ж табе!—ды па Дзіву качаргою! Прырасла качарга да Дзіва, а жанчына да качаргі.

Крычыць яна як можа:

— Ой, бацюшка! Памажы ад качаргі адарвацца!

Падышоў поп і гаворыць:

— Ды што гэта такое?

Узяўся бабу ратаваць і сам прырос.

Прыходзіць дзяк і кажа:

— Бацюшка! Што вы так доўга сядзіцё? Абедню трэба служыць.

— Бачыш ты, бяда якая, ад качаргі не магу адарвацца.

— А бадай вам смешна было!—сказаў дзяк і хацеў папа адарваць і сам да яго прырос.

Прышоў званар папа ратаваць і сам да яго прырос.

— Чаго вы наляпіліся тут?—спытаў, прышоўшы, царкоўны стараста і хацеў памагчы. Але як дакрануўся да папа, дык і сам прырос.

Прышла пападдзя, а поп крычыць:

— Не бярыся за качаргу, бо і ты прырасцеш! Бяжы пакліч шаптуху, каб памагла нам,



Пабегла матушка шаптуху клікаць. Прышла шаптуха. Шаптала, шаптала, узялася за качаргу, і яна прырасла. Мітусяцца яны, як мухі каля гаршчка. А тут Дзіва з месца зрушылася, усіх на двор пацягнула, з двара на вуліцу. Павыбягалі людзі на вуліцу, пазіраюць, адны смяюцца, другія ўздыхаюць. Кінуліся адны ў званы званіць, другія— харугві браць, папа праваджаць. А Дзіва павалакло ўсіх, хто прырос, у лес. Ідуць цераз грэблю, да мастка падыходзяць. Выскаквае з пад мастка чорт і кажа папу:

— Калі пусціш за царскія дзверы, то я цябе адарву.

Поп не толькі за царскія дзверы, а і на прастол абяцае пасадзіць чорта, абы ад качаргі адарвацца памог. Узяўся чорт адрываць папа ад качаргі, ды сам да яе прырос. І павяло іх Дзіва ў лес туды, дзе гаспадар дровы сек.

Высек гаспадар шэсць дубін, самую тоўстую на чорта, і давай лупіць яго, прыгаварваючы: „А ты чаго тут? А ты чаго тут?" Біў, біў, а потым узяўся за качаргу, чорт і адстаў. Пусціўся ён у лес бегчы ды так, што цэлую лінію і праламаў. Другую дубіну на папу пабіў. Пусціўся поп дадому бегчы, толькі валасы трасуцца і халаміда матаецца. Перабраў гаспадар усіх дубінамі, а сваё Дзіва на воз палажыў і прывёз дадому.

Перастаў тады поп дзівам дзівіцца.



Мал. І. Розанава

# ГІСТОРЫЯ ПАРАШУТА



1. Першы парашут прыдумаў вялікі італьянскі вучоны і мастак Леонардо да-Вінчы 441 год таму назад. Гэта—малюнак яго парашута. Але сам парашут пабудаваны не быў, і на ім ніхто не спускаўся.



2. Праз сто гадоў пасля смерці Леонардо да-Вінчы венецыянец Фауст Вернацыо першы раз спусціўся на парашуце са страхі невысокай вежы. Яго парашут быў зроблены з кавалка палатна, нацягнутага на цяжкую драўляную раму.



3. Мінула яшчэ 166 год, і французскі фізік Ленорман пабудаваў парашут з цвёрдым купалам. На ім ён спусціўся ўжо з высокай вежы.



4. Першы прыжок з паветранага шара на вышыні 700 метраў зрабіў французскі паветраплавальнік Гарнерэн 139 год таму назад.



5. Пасля Гарнерэна многа парашутыстаў-спартсмэнаў ужо не адзін раз спускаліся на парашуце з паветранага шара, трымаючыся за кальцо, прымацаванае да стропаў парашута.



6. У час імперыялістычнай вайны 1914 года парашут выратаваў жыццё многім ваенным лётчыкам. Гэты парашут прывязваўся да пояса лётчыка кароткаю вяроўкаю і раскрываўся сам у час прыжка парашутыста.



7. У нас у СССР тысячы смелых і адважных парашутыстаў і парашутыстак спускаюцца на парашутах у адзіночку і групамі. Совецкія парашутысты заваявалі сусветныя рэкорды па вышыні і зацяжных прыжках.



# казка пра Камара Камаровіча Доўгі Нос і пра Калматага Мішку Кароткі Хвост



МАМІН-СІБІРАК

## 1.

Гэта здарылася ў самы поўдзень, калі ўсе камары схаваліся ад гарачыні ў балота. Камар Камаровіч-Доўгі Нос прылёг пад шырокім лістом і заснуў. Спіць і чуе страшэнны крык:

— Ой, бяда!.. Ой, каравул!..

Камар Камаровіч выскачыў з-пад ліста і таксама закрычаў:

— Што здарылася? Чаго вы так раскрычаліся?

А камары лятаюць, жыкаюць, пішчаць,— нічога разабраць нельга.

— Ой, бяда!.. Прышоў у наша балота мядзведзь і залёг спаць. Як лёг у траву, дык адразу-ж задушыў пяцьсот камароў; як дыхнуў—праглынуў цэлую сотню. Ой, бяда, браткі! Мы ледзьве ўцяклі ад яго, а то ўсіх-бы перадушыў...

Камар Камаровіч-Доўгі Нос адразу раззлаваўся, раззлаваўся і на мядзведзя і на дурных камароў, якія пішчалі без толку.

— Гэй, вы, перастаньце пішчаць!—крыкнуў ён.—Вот я зараз пайду і праганю мядзведзя... Вельмі проста! А вы раскрычаліся толькі дарэмна.

Яшчэ больш узлаваўся Камар Камаровіч і паляцеў. Сапраўды, у балоце ляжаў мядзведзь. Забраўся ў самую густую траву, дзе камары жылі спрадвеку, разлёгся і носам сапе, толькі свіст ідзе, нібы хто на трубе іграе. Вось недалікатнае якое стварэнне! Залез у чужое месца, загубіў дарэмна гэтулькі камарыных душ ды яшчэ спіць так соладка!

— Гэй, дзядзька, ты гэта куды залез?— закрычаў Камар Камаровіч на ўвесь лес, ды так моцна, што нават самому зрабілася страшна.

Калматы Міша адплюшчыў адно вока— нікога не відаць, адплюшчыў другое—і ледзь разгледзеў, што лятае камар пад самым яго носам.

— Табе што патрэбна, прыяцель?—забурчаў Міша і таксама стаў злаваць.—Як-жа,

толькі асталяваўся на адпачынак, а тут нейкі нягоднік пішчыць...

— Гэй, выбірайся адсюль падабру, дзядзька!

Міша расплюшчыў яшчэ шырэй свае вочы, паглядзеў на нахала, фукнуў носам і зусім раззлаваўся.

— Ды што табе патрэбна, нягоднае стварэнне?—зароў ён.

— Выбірайся з нашага балота, а то я жартаваць не люблю... Нават разам з футрам цябе з'ем.

Мядзведзю зрабілася смешна. Перакуліўся ён на другі бок, закрыў морду лапай і зараз-жа захроп.

2.

Паляцеў Камар Камаровіч назад да сваіх камароў і трубіць на ўсё балота.

— Здорава я напалохаў калматага Мішку!.. Другі раз не прыдзе.

Здзівіліся камары і пытаюцца:

— Ну, а зараз-то мядзведзь дзе?

— А не ведаю, браткі. Моцна напалохаўся ён, калі я яму сказаў, што з'ем, як не пакіне нашага балота. Вы-ж ведаеце, я жартаваць не люблю, а так проста і сказаў: з'ем. Баюся, каб ён не здох са страху, пакуль я да вас лятаю. Што-ж, сам вінават!

Запішчалі ўсе камары, зажужжалі і доўга спрачаліся, як ім быць з такім недалікатным госцем. Ніколі яшчэ ў балоце не было такога страшнага шуму, пішчалі, пішчалі і парашылі:

— Няхай ідзе к сабе дамоў, у лес, там і спіць. А балота наша... Яшчэ бацькі і дзяды нашы ў гэтым самым балоце жылі.

Адна бабулька камарыха параіла нават зусім не чапаць мядзведзя... няхай сабе паляжыць, а калі выспіцца, сам сыйдзе; але на яе ўсе так накрычалі, што бедная ледзь паспела схавацца.

— Хадзем, браткі!—крычаў больш за усіх Камар Камаровіч.—Мы яму пакажам... так!

Паляцелі камары за Камаром Камаровічам. Ляцяць і пішчаць, нават самім страшна робіцца. Прыляцелі, глядзяць, а мядзведзь ляжыць і не варушыцца.

— Ну, я так і казаў: памёр небарака са страху!—хваліўся Камар Камаровіч.—Нават шкада трохі, вунь які здаровы мядзведзішча...

— Ды ён спіць, браткі!—прапішчаў маленькі камарык, які падляцеў да самага



мядзведжага носа і ледзь быў не ўцягнуты туды, як у фортачку.

— Ах, сараматнік! Ах, бессумленны,— запішчалі ўсе камары разам і ўзнялі страшны гвалт.—Пяцьсот камароў задушыў, сто камароў праглынуў і сам спіць, як палена...

А Міша спіць сабе ды носам свішча.

— Ён прыкідваецца, што спіць!—крыкнуў Камар Камаровіч і паляцеў да мядзведзя.— Вось я яму зараз пакажу... Гэй, дзядзька, хопіць прыкідвацца сонным!

Як паляцеў Камар Камаровіч, як упіўся сваім доўгім носам проста ў чорны мядзведзяў нос, Міша так і падскочыў. Замахнуўся лапай па носе, а Камара Камаровіча як і не было тут.

— Што, дзядзька, не спадабалася?—пішчыць Камар Камаровіч.—Выбірайся, а то горш будзе... я цяпер не адзін, Камар Камаровіч-Доўгі Нос, а прыляцелі са мною і дзед мой Камарышча-Доўгі Насішча, і малодшы брат Камарок-Доўгі Насок! Вымятайся, дзядзька!

— А я не пайду!—закрычаў мядзведзь, усаджваючыся на заднія лапы.—Я вас усіх перадушу!..

— Ой, дзядзька, дарэмна хвалішся...

Зноў паляцеў Камар Камаровіч і ўпіўся мядзведзю проста ў вока. Зароў мядзведзь ад болю, стукнуў сябе лапай па мордзе, і зноў у лапе нічога, толькі ледзь вока сабе не вырваў кіпцюром. А Камар Камаровіч кружыцца над самым мядзведзевым вухам і пішчыць:

— Я цябе з'ем, дзядзька!..

## 3.

Яшчэ горш узлаваўся Міша. Вывернуў ён разам з коранем цэлую бярозу і стаў таўчы ёю камароў. Так і ломіць з усяго пляча... Біў, біў, нават змарыўся, а ніводнага забітага камара няма,—усе круцяцца над ім і



пішчаць. Тады схапіў Міша цяжкі камень і шпурнуў ім у камароў... зноў толку няма.

— Што, узяў, дзядзька?—пішчаў Камар Камаровіч.—А я цябе ўсё-такі з'ем...

Доўга ці коратка ваяваў Міша з камарамі, толькі шуму было многа. Далёка было чутно, як роў мядзведзь. А колькі ён дрэваў вырваў, колькі каменяў вывернуў!.. Усё яму хацелася забіць першага Камара Камаровіча: вось-жа вось тут, над самым вухам круціцца, а стукне мядзведзь лапай, і зноў нічога, толькі ўсю морду сабе да крыві паразрываў кіпцюрышчамі.

Замарыўся нарэшце Мішка. Прысеў ён на заднія лапы, фыркнуў і прыдумаў новую штуку: давай качацца па траве, каб перадушыць усё камарынае царства. Качаўся, качаўся Міша, аднак і з гэтага нічога не выйшла, а толькі яшчэ больш змарыўся ён. Тады мядзведзь схаваў морду ў мох,—выйшла яшчэ горш. Камары ўчапіліся ў мядзвежы хвост. Цяпер ужо зусім раззлаваўся мядзведзь.

— Пачакайце, вось я вам задам!—роў ён так, што за пяць вёрст было чуваць.—Я вам пакажу штуку... Я... я... я...

Адступіліся камары і чакаюць, што будзе. А Міша на дрэва ўзабраўся, як акрабат, сеў на самы тоўсты сук і раве:

— Ану, падступіцеся цяпер да мяне!.. Усім насы абламлю!

Засмяяліся камары тонкімі галасамі і кінуліся на мядзведзя ўжо ўсім войскам. Пішчаць, круцяцца, лезуць. Адбіваўся, адбіваўся Міша, праглынуў незнарок штук сто камарынага войска, закашляўся, ды як сарвецца з сука, нібы мяшок... Падняўся, пачухаў пабіты бок і кажа:

— Ну што, узялі? Бачылі, як я спрытна з дрэва скакаю?

Яшчэ танчэй засмяяліся камары, а Камар Камаровіч так і трубіць:

— Я цябе з'ем... я цябе з'ем... з'ем, з'ем!

Змогся дарэшты мядзведзь, выбіўся з сілы, а пакідаць балота брыдка. Сядзіць ён на задніх лапах і толькі вачыма міргае.

Выратавала яго з бяды жаба. Выскачыла яна з-пад купінкі, прысела на заднія лапкі і кажа:

— Ахвота вам, Міхайла Іванавіч, турбаваць сябе дарэмна... не звяртайце вы на гэтых гадкіх камарышкаў увагі. Не варта.

— І то праўда,—узрадаваўся мядзведзь.— Я гэта так... няхай вось яны да мяне ў бярлогу прыдуць, ды я... я...

Як павернецца Міша, як пабяжыць з балота: а Камар Камаровіч-Доўгі Нос ляціць за ім, ляціць і крычыць:

— Ой, браткі, трымайце! Уцячэ мядзведзь... Трымайце!

Сабраліся ўсе камары, параіліся і парашылі: „Не варта! няхай сабе ўцякае,—балота-ж ён не забраў, яно асталося нам!"



Мал. В. Ціхановіча.

# ДОБРА АДПАЧЫВАЕМ, ПАПРАЎЛЯЕМСЯ

### АДКАЗ ІСПАНСКІХ ПІОНЕРАЎ РЭБЯТАМ СОВЕЦКАГА САЮЗА

**Частка іспанскіх дзяцей, бацькі якіх змагаюцца на франтах супроць фашыстаў, жыве зараз у Совецкім Саюзе. Іспанскія дзеці сустрэлі ў нас самы радасны прыём. Летам яны жылі ў прыгожым піонерскім лагеры „Артэк“. Совецкія рэбяты вельмі цікавяцца жыццём іспанскіх дзяцей, пішуць шмат пісем. Вось адказ іспанскіх піонераў совецкім рэбятам.**

*ДАРАГІЯ ТАВАРЫШЫ, СОВЕЦКІЯ ПІОНЕРЫ!*

Мы атрымліваем з усіх канцоў совецкай краіны так многа пісем ад рэбят, што кожнаму ў асобку не маем магчымасці адказваць. Вось мы і парашылі адказаць усім адразу праз „Пионерскую Правду“.

Мы вельмі рады, што прыехалі ў прыгожы і гасцінны Совецкі Саюз.

Нашы бацькі зараз змагаюцца супроць фашыстаў, як восемнаццаць—дваццаць год назад вашы бацькі змагаліся супроць белагвардзейцаў.

Калі нашы бацькі перамогуць фашыстаў і вайна скончыцца, жыць у Іспаніі стане лепш, радасней.

Вас цікавіць як мы жылі ў сябе на радзіме. Частка з нас у апошні час знаходзілася ў дзіцячых дамах. Сярод нас ёсць 10—11-гадовыя рэбяты, якія яшчэ не ўмеюць ні чытаць, ні пісаць, бо іх бацькі жылі вельмі бедна і пасылалі сваіх дзяцей з малых год не вучыцца, а працаваць.

Амаль усе мы перажылі жахі вайны. Некаторым з нас прышлося ўцякаць з гарадоў, захопленых фашыстамі. Там нашым піонерскім атрадам прыходзілася працаваць падпольна, бо піонераў фашысты каралі гэтак-жа сама, як і дарослых.

На нашых вачах адбываліся паветраныя баі, і вельмі страшна было, калі разрываліся бомбы.

Выехалі мы ў Совецкі Саюз з горада Валенсіі, дзе сабралася многа дзяцей. Ехалі на параходзе 10 дзён, і ў Ялту прыехалі 30 сакавіка. Там нас сустрэла шмат народу. А ў „Артэку“ совецкія піонеры наладзілі нам вельмі цёплую сустрэчу.

Нам у „Артэку“ вельмі добра. У нас ёсць вялікі прыгожы парк, шмат гульняў, дзівоснае мора. У школе займаемся толькі дзве гадзіны на дзень, рэшту часу адпачываем.

Мы падзелены на чатыры піонерскіх атрады. У кожным ёсць рускі важаты і іспанскі настаўнік. Усе мы працуем на дзіцячай тэхнічнай станцыі і вучымся маляваць, будаваць радыё, тэлефон і авіямадэлі. Большасць з нас хочуць стаць лётчыкамі. Мы тут добра адпачываем і папраўляемся.

З сяброўскім прывітаннем!

**Калектыў іспанскіх піонераў адпачываючых у „Артэку“.**

## У ЛАГЕРЫ

**Верш дзяткора ГАЎРУКА ВАСІЛЯ**

Эх, як добра ў лесе
Час праводзіць нам!
Колькі звону, песень
Раздаецца там!

Ў сінім небе сонца
Весела гарыць,
І ўвесь час бясконца
Ёлачка шуміць.

Дуб галлё развесіў
За крутой гарой.
Добра быць у лесе
Летняю парой!

# ПАДУМАЙ

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | 8 | 29 | 28 |
| 30 | 27 | 2 | 7 |
| 4 | 5 | 32 | 25 |
| 31 | 26 | 3 | 6 |

## ЯК НІ КІНЬ—66!

Гэта вельмі цікава пабудаваны квадрат. Любы рад,—больш таго, любыя чатыры сумежныя клеткі,—у суме даюць 66! Паспрабуйце самі падабраць падобныя квадраты.

## ЗАГАДКА

Прыляцелі галкі,
Селі на палкі.
Калі на кожнай палцы
Сядзе па адной галцы,
Дык для адной галкі
Няхопіць палкі.
Калі-ж на кожнай палцы
Сядзе па дзве галкі,
Дык адна з палак
Будзе без галак.
Колькі было галак?
Колькі было палак?

## КОШЫК ЯЕК

Ішла па дарозе дзяўчынка і несла кошык з яйкамі. Імчаўся па дарозе чырвонаармеец і незнарок закрануў нагою кошык. Яйкі ўпалі і ўсе пабіліся.

Дзяўчынка расплакалася.

А чырвонаармеец кажа:

— Не плач, мы зараз купім другія.

Ён узяў каня за аброць і пайшоў з дзяўчынкай на рынак.

— Ну, колькі ў цябе было яек?—запытаў чырвонаармеец.

— Я... я не помню,—сказала дзяўчынка.

— А ты пастарайся, успомні.

— Не, я ніяк не ўспомню. Калі я лічыла іх парамі,—адно асталося лішняе. І тройкамі лічыла—таксама адно асталося лішняе. І чацвёркамі—таксама адно лішняе. А пяцёркамі—якраз не асталося ніводнага лішняга яйка.

— Ну, цяпер я ведаю, колькі ў цябе было яек у кошыку.

— Колькі?—спытала дзяўчынка.



— У цябе было 25 яек,—сказаў чырвонаармеец.

І ён купіў 25 яек і аддаў іх дзяўчынцы.

Ці правільна ўгадаў чырвонаармеец?

ІСКРЫ ІЛЬІЧА
ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСВЕТЫ
ВЫДАВЕЦТВА „ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА“

ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ АКЦЯБРАТ І ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ
ЖНІВЕНЬ 1937 г. № 8

ЦАНА 30 кап.





# МАСТАК І БУЛЬДОГ

Малюнкі Н. МАЛЕВІЧА



1. Вось зараз я і намалюю свайго бульдога разам з яго косткай.



2. Так, так, на палатне зусім не дрэнна выходзіць.



3. Асталося дамаляваць вочы, і бульдог будзе як жывы.



4. Ну, пасля такой удалай работы можна і перакусіць.



5. Нахальства! Чужы бульдог забраўся ў яго хату і яшчэ есць костку...



6. І раззлаваны бульдог рынуўся на няпрошанага госця...

Радактар А. ЯКІМОВІЧ. Афармленне В. ЦІХАНОВІЧА. Адрас рэдакцыі: Менск, Дом Друку.

Друкарня імя Сталіна. 20.000 экз. Зак. № 1138. Уп. Галоўлітбела № 2563.